ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ ЦАНА — PRICE $ 1.0

# Беларус

BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE FREE WORLD
Post address: Bielarus, P. O. Box 178, Jamaica, N. Y. 11431 Tel.: (212) 380-2036

Год. XXVIII, № 271-72 New York, Nov.-Dec. — Ліст.-Сьнеж. — 1979 Vol. XXVIII, № 271-72

## КАЛЯДНАЕ АРХІПАСТЫРСКАЕ ПАСЛАНЬНЕ ЯПІСКАПАЎ БЕЛАРУСКАЙ АЎТАКЕФАЛЬНАЙ ПРАВАСЛАЎНАЙ ЦАРКВЫ

### ДАСТОЙНАМУ СЬВЯТАРСТВУ Й УСІМ БАГАЛЮБНЫМ ПРАВАСЛАЎНЫМ ВЕРНІКАМ НАРОДУ БЕЛАРУСКАГА НА ЧУЖЫНЕ Й НА БАЦЬКАЎШЧЫНЕ

### ХРЫСТОС НАРАДЗІЎСЯ — СЛАЎЦЕ ЯГО!

**„Бо так палюбіў Бог сьвет, што аддаў Сына Свайго Адзінароднага, каб усякі, хто верыць у Яго, не загінуў, але меў жыцьцё вечнае" (Ян, 3, 16).**

Госпаду Богу было ўгодна, каб Другая Асоба Прасьвятое Тройцы — Сын Божы дзеля нашага збаўленьня ласкава прыняў чалавечае цела й нарадзіўся ад Прасьвятое Дзевы Марыі. Гэты дзень Нараджэньня Збаўцы мы кажны год урачыста сьвяткуем, сьцьвярджаючы гэтым самым навуку Сьвятое Царквы й верым, што Хрыстос ёсьць Сынам Божым.

Вера гэтая сягае сваім пачаткам у старазапаветную гісторыю, калі было абвешчана пракорамі за некалькі стагодзьдзяў да Новага Запавету й калі людзі нецярпліва чакалі на прыход Мэсыі.

Сьвята Раства Хрыстовага мае вялікае значаньне для нас. Яно заклікае нас углыбіцца ў ягоны зьмест, бо зьмест гэты дзіўны. Раство Хрыстовае — гэта штосьці зусім іншае, чымся нараджэньне навет самых вялікіх людзей.

Калі людзі сьвяткуюць нараджэньне выдатных асобаў, яны славяць іхнае мінулае. Але сьвята Раства Хрыстовага не падобнае да такіх сьвяткаваньняў. Яно ня ёсьць сьвятам чыну ўжо закончанага. Раство Хрыстовае — гэта сьвята вялікае й сьвятое Надзеі, зьдзейсьненьне якое ляжыць у будучыні. За восем стагодзьдзяў да Хрыстовага Нараджэньня прарок Ісая натхнёна сказаў: „Дзіцятка нарадзілася нам! Сын дадзены нам! Імя Ягонае: Дзіўны Раднік, Бог моцны, Айцец будучага веку, Князь міру-супакою" (Іс. 9, 6).

Гэтае прароцтва Ісаі расчыняе нам сэнс Раства Хрыстовага. Таму вось сьвята гэтае ня ёсьць сьвятам ужо закончанага чыну, а сьвятам Надзеі на радаснае й шчасьлівае жыцьцё, як і абвесьцілі аб гэтым ангелы ў ціхую Сьвятую Ноч у Віфліеме: „Слава на вышынях Богу, і на зямлі супакой усім людзям добрай волі".

Вось гэтага Божага міру-супакою мы й жадаем усім вам у часе сьвятых дзён РАСТВА ХРЫСТОВАГА. Няхай у сэрцах і душах нашых гучаць у гэтыя слаўныя дні словы Ангелаў сьвятых, як натхненная гармонія Нябёсаў, як сьвятло Зоркі Віфліемскае, як асьвячаючая нас Ласка Божая, прыносячая нам запраўдны супакой, задаваленьне, натхненьне, радасьць незямную. І няхай гэтая радасьць стала прабывае з намі й робіць нашае жыцьцё дзейным сьвятам, а кажны Новы Год адкрывае нам новыя крыніцы шчасьця. А Нованароджаны Хрыстос, Бог і Збаўца наш, падаруе гэты Свой мір-супакой і Ласку нам і нашай Богалюбнай Бацькаўшчыне, бо толькі Ён можа засудзіць на пагібель нашых панявольнікаў, і па Веры нашай падаруе Свабоду Сваю нашай любай Маці-Беларусі.

Няхай радасьць гэтага Вялікага Сьвята напоўніць нашыя сэрцы ды яшчэ цясьней аб'яднае нас усіх у працы для пашырэньня Божае Славы сярод нашага народу, які заўсёды прагне пэўнасьці царкоўна-рэлігійнага й культурна-нацыянальнага жыцьця, захоўваючы й шануючы сваю мэлёдыйную беларускую мову, цудоўныя песьні, прыгожыя традыцыі й звычаі. Такая праца нашая напэўна спрычыніцца адначасна й на карысьць роднае Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы.

Нам асабліва патрэбны духовы супакой і нутраны мір у нашай грамадзе. Толькі супакоем і цёплаю атмасфэраю можна спыніць масавы адыход нашае моладзі ад нас. У тым грамадзтве, дзе моладзь адчувае сябе духова задаволенаю, яна ўліваецца ў грамадзкую працу, а калі ня мае рэлігійнага ўзгадаваньня, хутка асымілёўваецца. Устрымаць моладзь ад асыміляцыі можа толькі свая нацыянальная Царква й нацыянальныя арганізацыі.

Таму зь любоўю ў Нованароджанага Хрыста Бога нашага ўсім нам неабходна аб'яднацца ў роднай Беларускай Праваслаўнай Царкве, тою любоўю, што з-за яе Хрыстос зь неба зыйшоў, каб аб'яднаць нас Сваім Міласэрдзем.

З гэткімі думкамі й разважаньнямі вітаем Вас Усячэснае Духавенства, Багалюбных вернікаў ды ўвесь Беларускі Народ зь Вялікім Сьвятам Раства Хрыстовага й Новым Годам! Ласка й супакой Госпада нашага Ісуса Хрыста, Любоў Бога й Айца й лучнасьць Сьвятога Духа няхай будзе з усімі вамі цяпер, усячасна й павек вякоў.

**Каляды**
**лета Божага 1979**

**З Ласкі Божае**

**✠ Пакорны ў Богу —**
**Андрэй Мітрапаліт,**
**✠ Пакорны ў Богу —**
**Мікалай Архіяпіскап**

**НОВЫ ПАШТОВЫ АДРЫС „БЕЛАРУСА" цяпер гэткі:**

**"BIELARUS"**
**P. O. Box 178**
**Jamaica, N. Y. 11431.**

**На гэты адрыс просім і высылаць падпіску й ахвяры на Выдавецкі Фонд „Беларуса".**

## ГАЙ ДЭ ПІКАРДА Ў НЬЮ ЁРКУ

Сп. Гай дэ Пікарда, у дадатак да свае адвакацкае практыкі міжнароднага права ў Лёндане й Парыжы, займаецца й цікавіцца шмат якімі навуковымі й грамадзкімі аспэктамі беларусаведы. Частковыя вынікі гэтага ягонага зацікаўленьня знаходзяць сваё выяўленьне ў друку ў форме брашураў, а таксама на старонках англамоўнага „Журналу Беларусаведы", выдаванага ў Лёндане Англа-Беларускім Таварыствам, у якім сп. Пікарда шмат гадоў займае становішча сакратара.

У кастрычніку сёлета Беларусы Нью Ёрку, Саўт Рывэру, Гайлэнд Парку мелі прыемнасьць асабіста сустрэцца із сп. Пікардам, пабачыць ягонае глыбокае зацікаўленьне пытаньнямі беларускае культуры, ягоную шчырую адданасьць справе зьбіраньня й захаваньня архіўных дакумэнтаў ды культурных памятак Беларусі. Асаблівую зацікаўленасьць выяўляе сп. Пікарда да справы вывучэньня й друку беларускае царкоўнае музыкі. За праміналае дваццацігодзьдзе сп. Пікарда набыў нязвычайна шырокія веды ў гэтай галіне, якімі ён і падзяліўся із слухачамі на ягоным рэфэраце, арганізаваным у памешканьні Фундацыі імя П. Крэчэўскага ўправаю Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва 12 кастрычніка.

Дакладчык гаварыў пра народныя элемэнты й гістарычную традыцыю ў разьвіцьці беларускае рэлігійнае музыкі; пра багацьце рэлігійна-музычнае спадчыны ў Беларусаў — спадчыны, якая блізу цалком не дасьледаваная, але дзеля вывучэньня якое знаходзіцца багаты кніжны й архіўны матар'ял, найбольш у бібліятэтакх Расеі, куды ў XIX ст., па ліквідацыі ў 1839 годзе Вуніяцкае Царквы на Беларусі былі вывезеныя кніжныя й архіўныя фонды, некаторыя зь якіх ляжаць і дасюль у бібліятэчных падвалах нат не распакаваныя.

Даклад свой сп. Пікарда суправаджаў вакальна-музычнымі прыкладамі, прадэманстраваўшы ня толькі свае выканальніцкія здольнасьці, але й музыкаведную дарыхтаванасьць ды грунтоўнае азнаямленьне зь беларускай рэлігійна-музычнай культурай і асаблівасьцямі нацыянальных традыцыяў у гэтай галіне.

Сп. Гай дэ Пікарда паставіў сабе за мэту выдаць як мага паўнейшы сьпеўнік беларускае рэлігійнае музыкі. Часткава выданьне гэтае пачатае ўжо (гл. у разьдзеле „Што чуваць?" у гэтым нумары газэты). Пры гэтым ён зьбірае таксама архіўны матар'ял для Беларускае Бібліятэкі імя Скарыны ў Лёндане дзеля вывучэньня дзейнасьці й творчасьці ўсіх беларускіх кампазытараў і хормайстраў, што мелі дачыненьне да рэлігійнае музыкі (дарэчы, сп. Пікарда паінфармаваў, што лёнданская бібліятэка імя Ф. Скарыны праўна аформленая цяпер, як незалежная культурная ўстанова Вялікабрытаніі, у кіраўніцтва якое ўвайшлі Беларусы й Брытанцы розных веравызнаньняў.

Зачыняючы вечар, праф. Ант. Адамовіч адзначыў унікальную кваліфікаванасьць і дарыхтаванасьць сп. Пікарды для апрацаваньня фундамэнтальнага зборніка беларускае рэлігійнае музыкі ды пажадаў яму ўсякае памыснасьці ў гэтай вялікай справе. Усе, зь кім сп. Пікарда меў нагоду сустрэцца ў часе ягонага наведаньня Нью Ёрку й ваколіцаў, шчыра далучацца да гэткага пажаданьня. А калі хто мае якія-небудзь матар'ялы (ноты, лісты, біяграфіі, фатаграфіі й г. д.) да гісторыі станаўленьня й разьвіцьця беларускае рэлігійнае музыкі, просьба прысылаць фатастат гэткага матар'ялу ў лёнданскую Бібліятэку імя Францішка Скарыны. Гэта будзе найлепшая падзяка сп. Пікарду за ягоную зацікаўленасьць у беларускіх справах ды маральнае падтрыманьне ў ягонай няўтомнай высакароднай працы.

**Я. Запруднік**

## У ВАБАРОНЕ МІХАЛА КУКАБАКІ



У рэдакцыю газэты „Беларус" прыйшоў з Савецкага Саюзу ліст ад Віктара Някіпелава ў вабарону Міхала Кукабакі. Зьмяшчаем яго ніжэй у перакладзе з расейскае мовы.

**Рэдакцыя „Беларуса"**

***

Сп. Бобу Доўлу, сэнатару ЗША.
Рэдакцыі газэты „Беларус", г. Нью Ёрк.
Амэрыканскаму аддзелу Амнэсты Інтэрнашэнал

**Калі рэпрэсія бяссэнсоўная...**

Адкрыты ліст у вабарону Міхала Кукабакі.

Мне сталася ведама, спадару Сэнатар, што Вы пастанавілі ўзяць асабісты ўдзел у долі савецкага вязьня сумленьня, работніка, Міхала Кукабакі.

Я ведаю таксама аб тым, што доля гэтага мужнага чалавека не абыякавая шмат каму зь ягоных суброатоў у нацыі — Беларусам, што жывуць за межамі.

Я хацеў-бы расказаць тут пра суд над М. Кукабакам ды пра ягоны цяперашні стан, які выклікае ў мяне паважную трывогу.

Суд адбыўся 20-21 чырвеня 1979 году ў гор. Бабруйску, і мне пашчасьціла — што рэдка здараецца на савецкіх палітычных працэсах — быць на гэтым судзе. Гэты суд быў жалюгодны й бяссэнсоўны. Я падчыркваю гэтае слова — **бяссэнсоўны,** бо на ім ня было каго судзіць, апрача самое сыстэмы, што арганізуе гэткія суды.

Усё злачынства Міхала Кукабакі — напісаньне артыкулу „Міжнароднае распружаньне й правы чалавека — непадзельныя" **(распружаньне!** заклік да распружаньня й прытрымваньня правоў чалавека, удумайцеся ў самы назоў працы!) ды нарысу „Ўкрадзеная Радзіма", перададзеных ім за межы, а таксама азнаямленьне аднаго із суслужбоўцаў з **адкрытым (!)** лістом міністру аховы здароўя СССР.

Міхал Кукабака бараніў сябе сам. Ён гаварыў упэўнена й адкрыта ды не хаваў сваіх пагдядаў. Ён не адхіляў абвінавачаньня, а наадварот — судзіў ягоную злачынную ганебнасьць. Ён сказаў:

„Але, я ўважаю сябе за вінаватага... Яшчэ ў 1970 годзе я быў паддадзены рэпрэсіям за перакананьні й правёў у зьняволеньні сем гадоў... Мае перакананьні выпакутаваныя й цьвярдыя .І вы самі разумееце, што чалавек, які ўсё жыцьцё праводзіць у турме за перакананьні, ня можа быць злачынцам...

„Мае перакананьні абсалютна супрацьлежныя камуністычнай ідэялёгіі. Гэтыя перакананьні ніякаму выпраўленьню працаю не падлягаюць. Як гэта можна — выпраўляць працаю перакананьні?!"

Ведама, што яшчэ ў красавіку 1977 году ў сувязі з поўным парваньнем зь дзяржаўнай ідэялёгіяй, М. Кукабака падаў заяву аб выезьдзе з СССР. Адказам стаўся ягоны арышт. Цяпер, на судзе, Кукабака йзноў паставіў пытаньне аб высланьні яго з краю:

„Я адмовіўся ад грамадзянства, а прымусовае накіданьне грамадзянства — гэта бяспрыкладны садызм ...Я не хачу мяняць сваіх перакананьняў, я не магу іх мяняць. І калі яны не задавальняюць вас, — вышліце мяне з краю".

Адказам быў прысуд: тры гады лягераў.

Я зрабіў падрабязны запіс бабруйскага працэсу, і я прасіў-бы Вас, спадару Сэнатар, а таксама ўсіх замежных сяброў М. Кукабакі пазнаёміцца з гэтым дакумэнтам.

Цяпер Міхал Кукабака прыбыў у крымінальны лягер. Ягоны адрыс: **211440, Віцебская вобласьць, г. Наваполацак-35, Установа УЖ 15/10-„Д".**

Ужо зь лягеру, у сваёй заяве, скіраванай Пленуму Вярхоўнага суда СССР, М. Кукабака йзноў падчыркнуў, што расправа над ім — гэта суд над ягонымі перакананьнямі. Ён прасіў заміж гэтай бяссэнсоўнай рэпрэсіі выслаць яго з СССР у які хаця з краёў вольнага сьвету (у савецкай афіцыйнай мове гэта завецца „ў які хаця капіталістычны край"). У выпадку-ж адмовы ён дамагаецца пераводу яго на суровы рэжым — у палітычны лягер, навет у турму, пакольні ён як палітычны зьняволены адмаўляецца ад прымусовае працы ў умовах крымінальнага лягеру.

Я прадбачу, што гэткае бескампраміснае становішча, занятае М. Кукабакам, паставіць яго пад пагрозу бязупынных нутралягерных рэпрэсіяў, а значыцца, засудзіць на катаваньні голадам, ледзянымі карцарамі.

Усё гэта выклікае паважную трывогу аб здароўі 43-гадовага вязьня, што церпіць ад хваробаў сэрца, печанёў, хранічнага гаймарыту ды запаленьня сярэдняга вуха.

Наўзьверх на ўсё Міхал Кукабака — поўны сірата, у яго няма ні блізкіх, ні далёкіх сваякоў, няма сям'і, а значыцца, на ўвесь тэрмін зьняволеньня ён засуджаны на катаваньні адзіноцтвам. Я — ягоная давераная асоба, але нат не зважаючы на гэта, мне было адмоўлена ў сустрэчы з М. Кукабакам пасьля суду і, баюся, будуць адмаўляць надалей.

Міхал Кукабака засуджаны за перакананьні ды ідэялягічны неканфармізм. ККД (каэфіцыент карыснага дзеяньня) гэтае рэпрэсіі роўны нулю. Якое хаця пакараньне заўсёды мае на мэце палепшаньне таго, каго караюць, зьмену ягоных нахілаў, звычак, формы трыманьня. Караньне чалавека, які цьвердзіць „на гэтым стаю", гэта значыцца пазбаўленьне свабоды за перакананьні, — гэта абсурд, сьведамае спрычыняньне пакутаў і павольнае забойства.

Я прашу Вас выступіць у вабарону беларускага вязьня, дамагаючыся ад савецкіх уладаў нат ня акту гуманнасьці — акту элемэнтарнае разумнасьці — звальненьня Міхала Кукабакі ды высланьня яго з СССР. Няхай нат у наручніках, як гэта было ўжо колькі разоў.

Я прашу таксама падтрымаць Міхала Кукабаку сваёй увагай, лістамі да яго з-за мяжы.

Няхай дапаможа Вам Бог у Вашай дзейнасьці!

З прызнаньнем і надзеяй

**Віктар Някіпелаў**

14 верасьня 1979 году.
601330. Уладзімірская вобласьць, г. Камешкава, вул. Савецкая, д. 2-г, кв. 14.

**BIELARUS**
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION. Inc.
Subscription $ 10. 00 yearly.
**„БЕЛАРУС"** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія.
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Выпіска зь перасылкаю — 10.00 дал. на год.
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыялямі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

## КАНФЭРЭНЦЫЯ АМЭРЫКАНСКАЕ АСАЦЫЯЦЫІ ПАДТРЫМОЎВАНЬНЯ СЛАВЯНАВЕДЫ

Сёлетняя адзінаццатая Канфэрэнцыя Амэрыканскае Асацыяцыі Падтрымоўваньня Славянаведы адбывалася ад 10 да 13 кастрычніка ў горадзе Нью Гавэн у штаце Канэктыкэт пры Ейльскім Унівэрсытэце. У Канфэрэнцыі прыняло ўдзел каля тысячы навукоўцаў з Амэрыкі, Канады, Лацінаамэрыканскіх краёў ды з Ангельшчыны, Нямеччыны, Францыі й Польшчы. Было прачытана дакладаў і праведзена дыскусійных сэмінараў каля 500. Тэмы былі самыя розныя, як, прыкладам, „Рэгіянальная эканоміка Савецкага Саюзу", „Марксыцкая філязофія й мэтадалёгія ў гуманітарных навуках", „Савецка-амэрыканскія дачыненьні", „Жанчыны ў палітычным жыцьці Ўсходняе Эўропы", „Захад і Расейская Філязофія", „Савецкі Спорт", „Забаронены савецкі гумар" і г. д.

Адмысловая сэсія Канфэрэнцыі была прысьвечаная 400-годзьдзю Віленскага Ўнівэрсытэту, пра што ў васобным артыкуле ў гэтым нумары „Беларуса".

Сёлетняя Канфэрэнцыя Асацыяцыі Падтрымоўваньня Славянаведы вызначалася ўдзелам вялікае колькасьці маладых навукоўцаў і амэрыканскіх студэнтаў славянаведы. Беларуская тэматыка разглядалася ў паасобных рэфэратах (д-ра Вітаўта Тумаша й д-ра Вітаўта Кіпеля), а таксама на розных сэмінарах і працоўных сэсіях. Шмат дакладаў было прысьвечана вывучэньню й аналізу нацыянальных дачыненьняў у Савецкім Саюзе.

На сэмінарах былі закранутыя пытаньні між балтыйскімі народамі ды Беларусамі, Украінцамі й Расейцамі, а таксама дачыненьні між славянскімі народамі й народамі савецкіх азіяцкіх рэспублікаў. Цікавая працоўная сэсія была прысьвечаная ўліку рэдкіх славянскіх кніжак у Амэрыцы, у часе якой былі названыя й рэдкія кнігі, памфлеты й манускрыпты беларускія. На сэкцыі бібліятэкаведы была мова аб праблемах і прынцыпах трансьлітарацыі беларускіх геаграфічных назоваў ды канечнасьці іхнага перакладаньня зь беларускае мовы.

Падчас Канфэрэнцыі функцыянавалі выстаўкі народнага мастацтва й друку. Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва ў супрацоўніцтве з Аддзелам Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня штату Канэктыкэт наладзіў багатую выстаўку беларускага друку (пераважна кніжак) Амэрыкі. На месцы тут выказаць падзяку сп. Аўгеню Дубовіку, як прадстаўніку Беларусаў штату Канэктыкэт, гэтак і дасьпеламу арганізатару й адміністратару наладжаньня выстаўкі й супраціўніцтва з Асацыяцыяй. Ніжэй у скарачэньнях падаём беларускія даклады, што былі прачытаныя на адзінаццатай Канфэрэнцыі Амэрыканскае Асацыяцыі Падтрымоўваньня Славянаведы.

## РАДОВІШЧЫ СОЛЯЎ І НАФТЫ НА БЕЛАРУСІ ДЫ ІХНЫ ЎПЛЫЎ НА ЭКАНОМІКУ РЭСПУБЛІКІ

На гэткую тэму быў даклад д-ра В. Кіпеля, прачытаны на сэкцыі рэгіянальнага эканамічнага плянаваньня й рэсурсаў. Дакладчык даў падрабязны аналіз гісторыі адкрыцьця й распрацоўкі гэтых выкапняў. Радовішчы нафты былі адкрытыя ў 1964 годзе, хоць павышаная канцэнтрацыя гідракарбонаў у глебах Беларусі ў раёнах Глуску й іншых мясцовасьцях у кірунку на Мозыр была ведамая яшчэ ў даваенных часох. Развой нафтавае прамысловасьці дакладчык паказаў лікавымі дадзенымі. Гэтак у 1975 годзе на Беларусі было каля 200 нафтавых радовішчаў, якія былі зададзеныя ў эксплятацыю, а прадукцыя нафты ў тысячах тонаў узрасла ад 1965 году з 39 тысячаў тонаў да 7,954 тысячаў тонаў у 1975 годзе.

Падрабязна дакладчык прааналізаваў таксама адкрыцьцё радовішчаў соляў ды разбудову шахтавае прамысловасьці БССР. Аналізуючы будучыню гэтых радовішчаў, дакладчык, на базе дадзеных статыстычнага бюра СССР, зазначыў, што беларускія патасавыя солі сяньня становяць каля 18% патасавых соляў Савецкага Саюзу, а звычайная соль беларускіх радовішчаў становіць каля 20% запасаў звычайнае солі Савецкага Саюзу. Гэтыя два віды карысных выкапняў спрычыніліся й да разьвіцьця хэмічнае прамысловасьці Беларусі.

Эканоміцы Савецкае Беларусі была адданая ладная вага таксама на сэкцыі рэгіянальнага плянаваньня. Прафэсар Гэртруда Шрэдэр з унівэрсытэту Вірджыніі зазначыла, што за апошняе дзесяцігодзьдзе раптоўна пачаў павялічвацца валавы гадавы прыбытак БССР, што, аднак, не абазначае палепшаньня дабрабыту жыхарства, бо паралельна павялічыўся ўдзел Беларусі ў экспарце. Пра эканоміку БССР пасьля гаварылі прафэсары Лезлі Дайенс з унівэрсытэту Кэнзасу, Альфрэд Эванс з Каліфарнійскага ўнівэрсытэту й Кароль Нечэміас з унівэрсытэту Арызоны.

**Вітаўт Зубкоўскі**

## ДА ЧЫТАЧОЎ ГАЗЭТЫ "БЕЛАРУС"

Газэта „Беларус", як Вы ведаеце, выдаецца вылучна, дзякуючы грамадзкай ахвярнасьці, дзякуючы дацэньваньню газэты, як найлепшага лучніка паміж раськіданымі на эміграцыі Беларусамі ды народам на Бацькаўшчыне. Рэдкалегія „Беларуса" гатовая й надалей ахвярна працаваць над выдаваньнем газэты. Спадзяёмся, што й Вы надалей гатовыя падтрымваць яе грашовымі ахвярамі. Бязупынны рост коштаў выданьня змушае нас зварачацца да Вас з гэтай просьбаю. Мы ня можам дазволіць сабе, каб выхад газэты спыніўся дзеля нястачы грашовых сродкаў. Гэткім пераканаНьнем мы кіруемся, зварачаючыся да Вас і сёлета з гэтым лістом-заклікам.

Некаторыя з нашых Чытачоў, не чакаючы на гэты наш зварот-просьбу, прыслалі ўжо свае ахвяры. Калі Вы належыце да ліку гэткіх, выбачайце за гэты напамін. Шчыра дзякуем Вам за падтрыманьне газэты, якая дапамагае нам належаць да свае Беларускае Сям'і.

Чэкі на Выдавецкі Фонд „Беларуса" просім выпісваць на "BIELARUS" ды высылаць іх або на адрыс Прадстаўніцтва газэты (калі Вы жывяце паза Нью Ёркам ці вонках ЗША) або беспасярэдня на ніжэй паданы (новы) паштовы адрыс Рэдакцыі. З паза Амэрыкі просім высылаць **толькі ў валюце ЗША:**

BIELARUS
P. O. Box 178
Jamaica, N. Y. 11431
U.S.A.

З глыбоакй пашанай

З даручэння Рэдакцыйнае Калегіі

**Д-р Ст. Станкевіч — Старшыня**

**Чытайце, выпісвайце, пашырайце газэту Беларусаў у Вольным Сьвеце „БЕЛАРУС"**

## НА 60-ЫЯ ЎГОДКІ АЛЕСЯ АСІПЕНКІ

7 верасьня 1979 году споўнілася 60 год ад нараджэньня ў 1919 годзе на Віцебшчыне ведамага беларускага пісьменьніка Алеся Асіпенкі. Ягоныя ўгодкі годна адзначыў у сваім верасеньскім нумары за 1979 год часапіс „Маладосьць" артыкулам пісьменьніка Алеся Савіцкага й артыкулам пісьменьніка Сьцяпана Кухарава ў тым самым месяцы й годзе часапіс „Полымя". Затое газэта „Літаратура і Мастацтва", галоўным рэдактарам якой ад даўжэйшага часу сам юбіляр, не адзначыла ягоных угодкаў ніводным словам. Факт гэты добра сьветчыць аб сьціпласьці таленавітага пісьменьніка, даволі рэдкай і вельмі пахвальнай сярод заслужаных дзеячоў пяра.

Першыя свае апавяданьні надрукаваў Алесь Асіпенка ў 1953 годзе, а першую аповесьць, якая прынесла яму значную папулярнасьць, „Абжыты кут", у 1964 годзе. Спасярод іншых ягоных аповесьцяў яна карысна вырозьнівалася глыбокім аналізам характараў выведзеных у ёй пэрсанажаў і імкненьнем пісьменьніка быць у згодзе з суровай праўдай у вадлюстраваньні сучаснай ейнаму напісаньню савецкай рэчаіснасьці.

Абедзьве гэтыя рысы найбольш поўна выявіліся ў Асіпенкавым рамане 1965 году „Вогнены азімут". Тэмай раману — падпольны рух і партызанскае змаганьне падчас мінулае вайны ў вадным з раёнаў роднага пісьменьніку Падзьвіньня. Ужо ў самым пачатку дзеі раману, калі савецкая армія хаатычна ўцякала на ўсход пад бліскавічным ударам Немцаў, пісьменьнік вельмі рэалістычна патрапіў адтварыць трывожную й панікёрскую атмасфэру гэнага часу. Ня толькі людзі звычайныя, але й дазнаныя савецкія воіны амаль у кажным незнаёмым чалавеку бачылі тады шпіёна або нямецкага дэсантніка, а няўдачы савецкай арміі прыпісвалі здрадзе ейных каманьдзераў.

Ня ў прыклад шмат якім творам на партызанскія тэмы, раман „Вогнены азімут" адлюстроўвае зародкі й разьвіцьцё партызанскага руху на Беларусі згодна зь гістарычнай праўдай. Рух гэты зусім ня быў стыхійным і патрыятычным уздымам, як камэнтуе яго афіцыйная савецкая прапаганда. Наадварот, гэта быў рух, арганізаваны й кіраваны партыйнымі органамі пры больш або менш пасыўным становішчы мясцовага беларускага жыхарства. На шмат якіх прыкладах пісьменьнік зырка паказаў, што акты сабатажу й дывэрсыі, праводжаныя партызанамі, ня гэтулькі шкодзілі Немцам, колькі цывільнаму жыхарству, над якім бязьлітасна Немцы мсьціліся за гэныя акты.

Із шмат якіх гледзішчаў заслугоўвае на асаблівую ўвагу аповесьць Алеся Асіпенкі 1966 году „Жыта". У ваповесьці праўдзіва й пераконліва адлюстраваў аўтар нявымоўнае ваеннае гора беларускага жыхарства, спрычыненае ня гэтулькі франтавой вайной, колькі партызанскай акцыяй. Старая калгасьніца Даўгаліха ўпікае старшыні аднаўленага калгасу Язэпу Даліне: **„Мы і ў вайну гаравалі і цяпер нагаруемся. Вунь, дзе ня было парцізан, дык і хаткі захаваліся, і скацінка. Там ня трэба будзе на пагарэлішчы жыцьцё пачынаць. І помачы прасіць ня трэба".**

Тое-ж і ў суседняй Лятуве, куды езьдзяць жанчыны на саматужных возіках мяняць вопратку й іншыя рэчы на хлеб. Вярнуўшыся, Язэпава цёшча Тацьцяна разказвае: **„Отжа, дзеткі мае, жывуць там людзі! Як і ня было вайны. І кірмашы, як у нас даўней былі. Чаму нам так не пашанцавала".**

Пра нявымоўнае й незавіненае пакутніцтва беларускага народу, што было спрычыненае ня толькі Немцамі, а й партызанамі, вымоўна й трапна сказаў згаданы пісьменьнік Алесь Савіцкі. У сваім артыкуле ў „Маладосьці" на 60-я ўгодкі Алеся Асіпенкі ён пісаў: **„Скончыўшы раман аб вайне, пісьменьнік праз два гады напісаў цікавую аповесьць „Жыта", пра якую шмат пісала наша крытыка, пра якую шмат было гаворкі вострай і палемічнай. Чытач-жа, як гэта часьцяком здаралася пасьля выхаду кніг Алеся Асіпенкі, сваё стаўленьне да гэтага новага твору вызначыў рашуча й проста: кніга хутка зьнікла з паліц у кнігарнях".**

Рэалістычны паказ народных няшчасьцяў, спрычыненых вайной, гэта адна праблема аповесьці. Але ў сувязі зь ёй раўналежна разгортаецца й другая праблема, што гэнае цяжкое жыцьцё робіць проста кашмарным. Гэта ўдушлівая атмасфэра сталіншчыны, якая вытварыла бяздушныя фармалістычна-бюракратычныя дачыненьні да людзей з боку ўладаў, абыякавасьць да іхнага гора, усеагульную насьцярожанасьць і падазронасьць. Органы дзяржаўнай бясьпекі ўсюды шукаюць калябарантаў і зраднікаў. Пра Данілу Іванёнка хадзілі неправераныя слухі, быццам выдаў ён Немцам параненых савецкіх лётнікаў. Ён-жа апраўдваўся, што, наадварот, ён гэтымі лётнікамі заапякаваўся й памог ім перапраўіцца цераз фронт да сваіх. Аднак у гэта ня хочуць верыць і яго арыштоўваюць. Але праз нейкі час прыяжджае на машыне той-жа лётнік, якога ён выратаваў і прывозіць Данілу, як гэроя, узнагароджанага за ягонае выратаваньне ордэнам.

І вось у гэткай удушлівай атмасфэры змушаны працаваць галоўны гэрой аповесьці Язэп Каліна. Гэта актыўны праўдашукальнік, бязьмежна адданы партыі, руплівца адно пра дабро людзей. А таму ў гэнай „культаўскай" атмасфэры ён лішні й шкодны. Яму хвабрыкуюць абвінавачаньне ў занядбаньні партыйнай пільнасьці й адбіраюць партыйны білет. Трэба было шмат клопатаў, каб яго зрэгабілітавалі. У паказе людзей сталінаўскага тыпу й дачыненьняў, створаных гэтак званым „культам асобы", аповесьць „Жыта" шмат у чым прыпамінае ведамую забароненую й сяньня аповесьць Васіля Быкава „Мёртвым не баліць".

Асобнае месца ў Асіпенькавай творчасьці займае раман „Няпрыкаяны маладзік" на тэму паваеннага жыцьця на Беларусі. Раман быў упяршыню надрукаваны ў часапісе „Полымя" ў першай палавіне 1971 году. Ідучы напярэймы настырлівым патрабаваньням адлюстроўваць у літаратурных творах сучаснасьць, а ў ёй — людзей стваральнай працы, Алесь Асіпенка вывяў на сцэну вялікую колькасьць прадстаўнікоў сучаснай інтэлігенцыі гораду й вёскі самых розных прафэсіяў і на розных службовых становішчах. Гэтая інтэлігенцыя паказаная ў рамане на фоне розных зьяваў і праблемаў сучаснага жыцьця й у бязупынным працэсе змаганьня зь перажыткамі валюнтарызму, прыстасавальніцтва й кар'ерызму за вышэйшы ўзровень грамадзкіх і маральна-этычных нормаў жыцьця.

Грамадзкія й маральныя канфлікты й супярэчнасьці між дабром і злом у беларускай сучаснай літаратуры даволі частыя, сталіся яны навет традыцыйнымі. Але раскрыцьцё гэнага грамадзкага й маральнага зла й шкодных ягоных вынікаў ніразу ня мела гэткага шырокага паказу й войстрага асуджэньня, як у Асіпенкавым рамане „Няпрыкаяны маладзік". Несамавіта цяжкае ўражаньне выклікае ў рамане тое, што перамагаюць у гэтых канфліктах звычайна гэныя носьбіты грамадзкага зла. Дабіўшыся нясумленнымі мэтадамі высокіх грамадзкіх і службовых становішчаў, яны цешацца поўным даверам на вярхох, куды сумленным, але ніжэй пастаўленым людзям няма й доступу. Гэтым апошнім, бясьсільным і бездапаможным, застаецца толькі адно з двух: або крывіць душой і ўваходзіць у канфлікт із собскім сумленьнем, або быць абвінавачанымі ў няправільнай дзейнасьці й пазбаўленымі сваіх становішчаў. У зыркім рэалістычным паказе на цэлым радзе канкрэтных прыкладаў і адважным асуджэньні грамадзкамаральнага зла ў сучаснай савецкай рэчаіснасьці — галоўная каштоўнасьць гэтага раману.

З гэных канкрэтных прыкладаў змаганьня з грамадзкім злом у рамане вялікая колькасьць, але зь нястачы месца прывядзём адно колькі. Высакародны й сумленны чалавек, старшыня калгасу ў Ліскаx Міхась Васько, імкнучыся вывесьці адсталы калгас у перадавыя, мусіць усьцяж хітрыць перад начальствам. Яму загадваюць на вялікіх плошчах сеяць кукурузу, а адмовіцца ад канюшыны й аўса. Ён у афіцыйных зводках падае, што пад кукурузу адведзеныя вялікія палеткі, а неафіцыйна сеіць яе толькі на шматках зямлі ўздоўж дарогі. Ягоны прыяцель Лятко аднойчы яму скардзіцца: **„Павер, раніцой прачнуся, уключу рэпрадуктар і чакаю — будзе сяньня прамова ці не. Калі будзе — дык чакай павароту. Адзін раз — сей бульбу, другі раз — чаму сееш?"**

Дырэктарам навукова-дасьледвальнага інстытуту, што выпускае сельскагаспадарскія машыны, працуе Ўсевалад Рысакоў, чалавек нясумленны, кар'ерыст, што ня супраць і прысабечыць аўтарства важнага вынаходніцтва падпарадкаванага яму навуковага працаўніка. Пад ягоным кіраўніцтвам інстытут выпускае машыны звычайна з бракам і няпрыстасаваныя да мясцовых абставінаў. Але гэта Рысакова ані ня турбуе. Для яго галоўнае — слава, шуміха ў прэсе, пахвалі й узнагароды. І вось гэты інстытут прапануе калгасу свае машыны, перш-наперш экспэрымэнтальны яшчэ кормазапарнік. Васько адмаўляецца купляць гэтую, паводля ягонага пераканаНьня, няпрыгодную машыну. Яго выклікаюць у райком, дзе сакратар райкому яму кажа: **„Разумееш, Васько, усё, што ты гаворыш, разумна. Ты вось мне даказаў, і не пагадзіцца з табой нельга. Але-ж ня я ўсё рашаю. Рысакоў паедзе ў Маскву й расьпіша цябе таму, да каго ты доступу ня маеш, і яму паверацЬ, бо ён вучоны, і не абы-які. Ну, і станеш ты з-за гэтага агрэгата прытчай у якім-небудзь дакладзе. А калі здарыцца такое — што загадаеш нам рабіць? Мне зусім ня хочацца з-за гэтага кормазапарніка пасьля думаць, куды цябе перакінуць".**

Калі-ж Васько і далей стаяў на сваім, яго выклікалі ў вобласьць. Там ён выкручваўся тым, што калгас ня мае грошы на кормазапарнік. Але ў вобласьці пастараліся, каб грошы пазычыў яму банк. І Васько быў змушаны купіць гэны кормазапарнік, які за колькі дзён узарваўся. Але інстытут справу пакіраваў гэтак, што вінаватым застаўся Васько. Каб утрымацца на сваім становішчы й магчы руплівца пра калгас, Васько змушаны йсьці на ўсякія кампрамісы.

Іншы падобны прыклад. Загадчык высокай сельскагаспадарскай установы Сяргей Занямонец, чалавек глыбокіх ведаў і бязьмежна адданы справе павышэньня ўзроўню сельскае гаспадаркі, адкрыта, хоць і вельмі тактоўна, змагаецца з вынаходніцкімі дзівацтвамі інстытуту Рысакова. Вынік быў той, што Сяргея Занямонца зьнялі зь ягонага становішча.

Гэта адно некаторыя больш зыркія прыклады агульнага зла, што ўсяўладна пануе ў жыцьці. Але й гэтыя прыклады вымоўна паказваюць, якая цяжкая атмасфэра хвальшу, падхалімства й прыстасавальніцтва пануе ў жыцьці.

Алесь Асіпенка, раней адказны камсамольскі працаўнік, а пазьней і цяпер сябра Камуністычнай партыі, шчыра намагаецца ў сваіх творах асьвятляць падзеі з партыйных сацрэалістычных пазыцыяў. Але ўсюды там, дзе ён хоча быць у згодзе з праўдай, гэтыя партыйныя пазыцыі бываюць за вузкія для праўдзівага паказу рэчаіснасьці. І тады пісьменьнік патрапляе дастаткова ўзброіцца сьмеласьцяй, каб за ўсё зло ў сучаснай савецкай рэчаіснасьці пасярэдня, а часамі й беспасярэдня навет, асудзіць партыю, якая, аднак-жа, змушаная зь некаторых сваіх мяркаваньняў праглынуць горкую пілюлю. І тады творы Алеся Асіпенкі становяцца праўдзівым дакумэнтам часу.

Згаданы свой артыкул у часапісе „Полымя" на 60-я ўгодкі Алеся Асіпенкі Сьцяпан Кухараў закончыў гэткімі словамі: **„Сваё шасьцідзесяцігодзьдзе пісьменьнік страчае ў працы над новым раманам „Сьвятыя грэшнікі". Спадзяёмся, што ён будзе новай вышынёй, узятай пісьменьнікам".**

Таго самага спадзяёмся й мы. Нагул-жа творчасьць Алеся Асіпенкі важная, арыгінальная й карысная зьява ў сучаснай беларускай літаратуры. На ягоныя 60-я ўгодкі застаецца пажадаць яму як найбольшых посьпехаў на карысьць і славу роднай літаратуры!

**Ст. Станкевіч**

**"БЕЛАРУС" — ЗАПРАЎДНЫ ГОЛАС ГРАМАДЗКАСЬЦІ. ДЫК І ГРАМАДЗКАСЬЦЬ ПАВІННА ДАЦЬ ЯМУ НАЛЕЖНАЕ ПАДТРЫМАНЬНЕ!**

# НАПЯРЭДАДНІ ДВАЦЦАЦЬ ДРУГОЙ АЛІМПІЯДЫ

Набліжаецца 1980 год, а разам зь ім і наступная Алімпіяда. Ужо ў 1974 годзе Міжнародны Алімпійскі Камітэт (МАК) прыняў пастанову, што месцам XXII-ой Алімпіяды будзе Масква, а ў 1977 годзе была зацьверджаная й праграма гульняў. Ад даўжэйшага часу інтэнсыўна падрыхтоўваюцца да алімпійскіх спаборніцтваў спартсмэнкі й спартсмэны ўсяго сьвету. Для найлепшых зь іх ды найбольш шчасьлівых чакаюць падрыхтаваныя 203 камплеты залатых, сярэбраных і бронзавых мэдаляў. Паміж імі будуць Беларускі й Беларусы. А паміж алімпійскімі гарадамі ў ліку трох (апрача Масквы) будзе й Менск — сталіца БССР, а таксама Кіеў і Ленінград. У Менску на стадыёне „Дынама" пройдуць уступныя (папярэднія) гульні футбольных камандаў за права ўваходу у поўфінальныя й фінальныя фазы.

На сяньня ў БССР налічваецца два з палавінаю мілёнаў спартсмэнаў. Хоць лік мэдаляў, атрыманых у мінулым на 7-мі алімпіядах, у якіх прыймаў удзел Савецкі Саюз, і не такі шматколькасны, прыкладам, для БССР усяго 29 залатых, 17 сярэбраных і 10 бронзавых, але ён з году ў год павялічваецца, што зьяўляецца стымулам на будучыню.

Даводзіцца й нам глядачом, пераважна з тэлевізіі, бо хіба толькі нямногія адзінкі трапяць на самую Алімпіяду, трохі аднавіць у памяці тое, што ведалі, ды пазнаёміцца з тым, аб чым ня ведалі із цяперашнім зь гісторыі спорту, з асаблівай увагай на нашых суродзічаў. А тых фактаў ды ўспамінаў гэтак шмат, што хочацца сыстэматычна іх упарадкаваць. Каб закрануць хоць павярхоўна ўдзел беларускіх спартсмэнак і спартсмэнаў па чарзе на ўсіх 7-мі Алімпіядах, спатрэблася-б шмат заняць месца ў газэце, на што няпрыязным вокам глядзіць рэдакцыя. Дык даводзіцца агранічыцца: пра Алімпіяды ад пачатку: у Гэльсінках — 15-ую (а першую для СССР), Мэльбурне, Рыме, Токіё, Мэксыцы паінфармуем тых, хто гэтым цікавіцца іншым разам, а цяпер спынімся на XX-ай і XXI-ай Алімпіядах у Мюнхэне й Монтрэалі.

Асабліва нашае зацікаўленьне жаноцкай гімнастыкай, думаю не памылюся, для бальшыні нас у ЗША й пачалося якраз у часе Алімпіяды ў Мюнхэне. Як толькі, хай сабе й выпадкова, нешта ці нехта прыпомніць мне пра тую Алімпіяду, адразу ўстае перад вачыма такая маленькая, на выгляд сьціплая, а як-жа, моцная, навет упорыстая у дасягненьні сваіх запаветных мрояў, Ольга Корбут, што сваёй індывідуальнасьцяй натхніла мілёны дзяўчат-падросткаў усяго сьвету наследаваць яе. Пад ейным уплывам паўсталі сотні й тысячы спартовых клюбаў, у якіх расьлі й дужэлі маладыя гімнастычныя кадры для будучых спаборніцтваў.

Тое, што я тут стараюся сказаць, куды вобразьней сказаў паэта Уладзімер Някляяў у вершы „Гімнастка":

На п'едэстале вышыня —
Не зварухнуцца!
І вышынёю захлынуцца
Дзяўчынка ўстала...
Птушаня...

Яе славянскае імя,
Нязвыкла, на чужынных мовах,
Плыло ў юпітэрах ружовых —
О —
о —
ля —
я...

І, зьдзіўленая, утрапёная,
Яна яго не пазнавала,
Імя, якое рэха Нёмана
У нерушных барох гайдала!

І агарнуў на момант страх...
Але музыкі заігралі.
І пад высокім дахам залі
Затрапятаў Радзімы сьцяг!

І сэрца сьцяснулася: я!
І рукі ўскінуліся ўгору,
Нібыта ўжо дамоў, за мора
Яна ляцела...
Птушаня...

Дамоў, дзе ў нерушных барах
яе імя
гукае Нёман!..

Дзе мазалямі, потам сёмым
На п'едэстал пачаўся шлях.

А Радзіма ейная Беларусь была выпісаная на інфармацыйнай дошцы ў ліку іншых спартсмэнак: „Ольга Корбут — Горадня — Беларусь", чаго, і успамінаючы ейнае імя, рэпартар Крыс Шэнкель ніразу не прамінуў сказаць.



**Ольга Корбут на Алімпіядзе ў Мюнхэне**

У складзе гімнастычнай дзявоцкай групы былі яшчэ дзьве Беларускі: Тамара Лазаковіч і Антаніна Кошаль. Тамара Лазаковіч зь Віцебску, вучаніца трэнара Вінцэнта Дзьмітрыева, ехала на Алімпіяду як лідар каманды СССР, як чэмпіён. У 1971 годзе сталы чэмпіён Савецкага Саюзу, а за пару месяцаў пазьней — чэмпіён Эўропы. Сваю практыку ў спорце распачала яна ў 10 гадоў, а ў 14 год была ў ліку 6-ці найвыдатнейшых гімнастак Беларусі. Вельмі блізка была яна й на Алімпіядзе ў Мюнхэне да чэмпіянату сьвету, калі адпала Ольга Корбут, ейнай канкурэнткай была толькі спартсмэнка з Усходняй Нямеччыны Карын Янц. І трохі дзіўным здаецца, што гэткая маленькая была розьніца ў пунктах (Немка — 76.875, а Беларуска — Тамара Лазаковіч — 76.850). І нейкім чынам атрымалася ў выніку, што залаты мэдаль атрымала Людміла Турышчова Расейка (77.025 пунктаў), якая зусім не спадзявалася гэтага, сярэбраны мэдаль — Карын Янц, а Тамара Лазаковіч — бронзавы.

Чаму гэтак сталася? Ведаюць гэта дакладна толькі судзьдзі (усе жанчыны), што гэтую справу дыскутавалі й узгаднялі, прадстаўнічкі Ўсходняе Нямеччыны ды Савецкага Саюзу.

Пару словаў і пра Антаніну Кошаль мянчанку. Яна ў 1971 годзе была ўжо ведамай гімнасткай і прыняла ўдзел у беларускай каманьдзе на 5-ай спартакіядзе савецкіх народаў разам з Ольгай Корбут, каманьдзе, якая перамагла ўсе іншыя нацыянальныя каманды Савецкага Саюзу. Яна на Алімпіядзе ў Мюнхэне выконвала няўдзячную функцыю пачынальніцы-„забойшчыцы" спаборніцтва. Ніколі, як правіла, першым спаборніцам не даюць высокіх ацэнак. Выконвала Кошаль сваё заданьне выдатна, толькі пэрсанальных удачаў ёй не давялося перажыць. Падчас туру савецкіх гімнастак па ЗША, Беларусы Нью Ёрку мелі нагоду пазнаёміцца з выдатнымі здольнасьцямі Антаніны Кошаль. Яна экспрэсіяністка ў гімнастыцы, у яе здараецца, што нейкі дэталь, раптам перададзеная так нязвычайна й так унікальна, што выклікае захапленьні. Ейны трэнар — Віктар Хамутоў, паводля ўзроўню ставіцца побач з Ранальдам Кнышом — трэнарам Ольгі Корбут. Хамутоў малодшы й вучыцца ў Кныша й Дзьмітрыева пошукаў нейкае адменнасьці й арыгінальнасьці ў сваіх вучаніцаў. Антаніна Кошаль усё яшчэ верная гімнастыцы, тады як Тамара Лазаковіч пакінула гімнастыку з прычыны неахвоты ды нежаданьня далучыцца да новага жанру гімнастыкі, запачаткаванага Ольгай Корбут. Клясычнага тыпу прыгажуньня Тамара не зьмяніла свайго мастацкага густу ў разуменьні жаноцкае гімнастыкі.

У 1976 годзе ізноў на чарговай VI-ай спартакіядзе Савецкага Саюзу беларуская каманда, што складалася з капітана Ольгі Корбут, Антаніны Кошаль і дэбютантак Ліды Горбік, Людмілы Савінай, Натальлі Хамутовай, Сьвятланы Кудзінавай, Алы Зеленкі й Ніны Зеленковай, перамагла прызнаных лідараў: калектывы Масквы, Ленінграду, РСФСР, Украіны, Грузіі ды іншых. Бяручы пад увагу выдатных беларускіх трэнараў, беларуская гімнастычная школа займае становішча лідара ў СССР.

Пазнаёмімся зь Лідай Горбік, выдатнай гімнасткай Беларусі. У Баранавічах знайшоў яе трэнар Хамутоў, што вышуквае сваіх вучаніц па ўсёй тэрыторыі БССР, абмінаючы Горадню Кныша ды Віцебшчыну Дзьмітрыева. Ён задаўся мэтай вывесьці яе ў кандыдаты на Алімпіяду. Упяршыню яна выступіла перад глядачамі на адкрыцьці чэмпіянату Эўропы ў Менску ў 1971 годзе. І ўжо ад пачатку зьдзівіла ўсіх сваім іскрыстым аптымізмам. Не сьпяшаўся Хамутоў выводзіць яе на вялікае спаборніцтва, ён хацеў даць ёй добрую школу. Ён тлумачыўся: „Я ўпэўнены, што Ліда паедзе на Алімпіяду, але ў Монтрэалі яна здолее быць у галоўнай ролі, ня зможа перамагчы ні Ольгі, ні Турышчовай, ні Нэлі Кім, ні Надзі Каманічы. Але пасьля Монтрэалю прыйдзе ейны час".

Ці апраўдаецца мяркаваньне трэнара — няведама. А пакуль што Ліда ўдзельнічала ў некалькіх спаборніцтвах з посьпехам, прыкладам, на міжнародным спаборніцтве ў Рызе (Латвія) яна сталася чэмпіёнам у веку 14 гадоў. Да рэчы, трэйцяе месца ў гэтым спаборніцтве заняла таксама вучаніца Хамутова — Людміла Савіна.

VI-ая спартакіяда запішацца вялікімі літарамі ў гісторыі жаноцкай гімнастыкі. Гэта таму, што Ольга Корбут зьдзівіла ўзноў глядачоў сваёй новай рутынай на бервяне й на памосьце. Залаты мэдаль і тытул абсалютнай чэмпіёнкі атрымала Ольга й апярэдзіла Людмілу Турышчову. Гэта была прынцыповая перамога й трэнара Кныша. Турышчова так і спынілася на месцы пасьля мюнхэнскай перамогі, ейныя выступы на спартакіядзе выглядалі адсталымі, што перанесьлі гімнастыку на ўчарашні дзень. Ня выклікалі яны рэакцыі глядачоў і ацэнкі судзьдзяў, былі ўсьцяж зьніжанымі. А новыя гімнастычныя камбінацыі Ольгі былі самым сьвежым словам у сучаснай гімнастыцы. Гэтая спартакіяда й прыгатавала паступова — заканчэньне кар'еры Людмілы Турышчовай.



**Ліда Горбік з трэнэрам Вінцэнтам Хамутовам**

У зборнай каманьдзе СССР на Алімпіядзе ў Мантрэалі былі наступныя спартсмэнкі: тры ўдзельніцы XX-ай Алімпіяды — Ольга Корбут, Людміла Турышчова, Эльвіра Саадзі ды дэбютанткі — Нэлі Кім, Ліда Горбік, Сьвятлана Граздова й Марыя Філатава, зь іх дзьве Беларускі Ольга Корбут і Ліда Горбік.

Ня мела шчасьця на Алімпіядзе ў Монтрэалі Ліда Горбік, залічылі яе ў запасныя ды й не дапусьцілі да ўдзелу ў спаборніцтвах. І хоць савецкія гімнасткі здабылі агульны залаты мэдаль для свае каманды, у пэрсанальных выступленьнях было вельмі цяжка змагацца з 14-цігадовай румынскай гімнасткай Надзяй Каманэчы, якая здабыла 7 дзесяцібальных ацэнак. Зь беларускай каманды Ольга Корбут атрымала толькі сярэбраны мэдаль за выступ на бервяне, а Людміла Турышчова бронзавы, апрача залатога, прызнанага каманьдзе СССР.

Гэтым разам рэпартэры скрыўдзілі Ольгу, наводзячы на яе камэры ў часе выступаў Надзі Каманэчы, прэзэнтуючы яе, як суперніцу, што губляе прэсьціж. Пры гэтым кідалі пра яе злосныя заўвагі пра век Ольгі, што яна старэе, хоць Ольга толькі скончыла 21 год. Але памяць і ранейшае захапленьне Ольгай ня згасьлі ў шмат каго з глядачоў, якія й зрабілі ёй авацыю, калі яна здабыла свой адзіны сярэбраны мэдаль. Гэта было ў вапошні дзень спаборніцтваў, калі Ольга атрымала ацэнку 9.9 за выступ на бервяне, і быў гэта найдаўжэйшы й найбольш энтузіястычны апляўз прыяцеляў Ольгі. З годнасьцяй і шчасьлівай пакінула Ольга арэну. І прыгадалі пры гэтай нагодзе й тыя абыякавыя рэпартэры, што шмат заўдзячвае Амэрыка якраз Ользе, якая за апошнія пару гадоў сваім уплывам павялічыла ўдзел у гімнастычных клюбах (пераважна жаноцкіх) у 5 разоў. Другой запраўднай пераможніцай была Нэлі Кім, якая вось ужо два гады жыве ў Менску й выйшла замуж за жыхара гэтага гораду, што атрымала 2 залатыя мэдалі з ацэнкай па 10 пунктаў за гімнастыку на памосьце і ў скоку праз казла. Нэлі Кім на два гады маладзейшая за Ольгу й ейная сяброўка. Ня спраўдзіліся надзеі пакладаныя й на Марыю Філатаву 14-цігадовы, 66-цыфунтовы „гарэх", як яе называлі, камплетная яшчэ дзіцё, і фізычна, і мэнтальна.

І ўзноў вяртаемся да Вольгі, нашае нязьменнае фаварыткі.

Вольга Корбут цяпер жыве ў Менску й гадуе сынка. Яна часова ці назаўсёды пакінула гімнастыку. На запытаньне рэпартэра з Ангельшчыны, які яе адшукаў і з жалем выказаўся ў прэсе, што кватэра ейная толькі з трох пакояў, а занятак такі звычайны ў яе, у вадказе была: „яна гадуе сына". Будзем спадзявацца, што характар нашае зямлячкі й надалей застанецца ўпорыстым і вывядзе яе яшчэ на шырокую дарогу, дзе яна знойдзе поўнае задавальненьне ў гімнастыцы ці безь яе.

З маладое ўпорыстае дзяўчынкі, што напачатку выказвалася: „Усяго бывала. Ня гледзячы на ўзрост, я была даволі ўпартая. Калі ўяўляю сабе, што нейкі элемэнт трэба рабіць гэтак, а ня йнакш—ад свайго не адступлюся, штоб мне Кныш не гаварыў... А пасьля? Пасьля ўсё атрымліваецца паягонаму..."

Пазьней трохі йнакш: „У дачыненьні да гімнастыкі наражаецца жаданьне сваёй непаўторнасьці, тэмпам, рытмам зьдзівіць цэлы сьвет" ...А яшчэ пазьней зьявілася яшчэ адно жаданьне: „перадаць у сваіх паслухменьнікаў тыя самыя дачыненьні да гімнастыкі, якія знаходзяцца ў тваёй душы, сэрцы й якія проста немагчыма выказаць словамі": А цяпер: вырасла Ольга ў тыповую беларускую маці, што сур'ёзна ставіцца да свайго новага занятку й мае тое-ж жаданьне: „перадаць у сваіх учнях тое, што ў душы й сэрцы ці чаго проста немагчыма выказаць словам" — пры гадаваньні свайго сына.

**Зінаіда Станкевіч**

---

*Сябру Рэдакцыйнае Калегіі газэты „Беларус" і Рэдактару „Жаноцкай Старонкі" ў гэтай газэце*

*СПАДАРЫНІ ЗІНАІДЗЕ СТАНКЕВІЧЫСЕ*

*2-га сьнежня 1979 году спаўняецца 70 год жыцьця. З гэтае нагоды добрага здароўя, жыцьцёвай памысьнасьці, даўгіх год жыцьця й далейшае плённае дзейнасьці на беларускай нацыянальнай ніве шчыра Ёй жадае*

*Рэдакцыйная Калегія газэты „Беларус"*
*Управа Акругова Аддзелу БАЗА ў Нью Ёрку*

---

*ВІТАЕМ*

*із семдзесятымі ўгодкамі жыцьця шматгадовую шчырую працаўніцу на грамадзкай ніве ды працавітую прыяцельку газэты „Беларус", БАЗА й БІНіМ-у*

*ЯНІНУ КАХАНОЎСКУЮ*

*ды зычым Ёй добрага здароўя й усялякае памысьнасьці ў далейшым жыцьці й працы.*

*Рэдакцыйная Калегія „Беларуса"*
*Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне*
*Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва*

---

*ВІТАЕМ*

*із шэсьцьдзесятымі ўгодкамі жыцьця сябру Рэдакцыйнае Калегіі „Беларуса", даўгагадовага й шчырага пашыральніка роднага друкаванага слова й няўтомнага грамадзкага працаўніка*

*АЛЯКСАНДРА МІЦКЕВІЧА*

*ды зычым Яму добрага здароўя й усялякае памысьнасьці ў далейшым жыцьці й працы.*

*Рэдакцыйная Калегія „Беларуса"*
*Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне*

---



## НА ВУГОРСКАЙ УРАЧЫСТАСЬЦІ Ў ЛЁС АНДЖЭЛЕСЕ

У нядзелю 21 кастрычніка сёлета ў Лёс Анджэлесе ў Парку Мэк Артура каля помніка Вугорскім Змагаром за Свабоду адбылася ўрачыстая праграма, прысьвечаная памяці Вугорскага паўстаньня 1956 году.

У гэтай праграме прынялі ўдзел прадстаўнікі арганізацыі Амэрыканаў за Свабоду Паняволеных Народаў. Старшыня гэтае арганізацыі д-р Альгерд Клейнот сказаў прывітальную прамову й прадставіў пасобных прадстаўнікоў зь іхнімі нацыянальнымі сьцягамі, якія сталі каля помніка падчас урачыстасьці. Даўжэйшую прамову сказаў кангрэсмэн Робарт Дорнан. Беларусаў прадставіў на ўрачыстасьці із сваім нацыянальным сьцягам сп. Ч. Найдзюк.

**Н.**

## ВІЛЕНСКІ ЎНІВЭРСЫТЭТ У МІЖВАЕННЫХ ГАДОХ

**(Заканчэньне з 6-ай бачыны)**

гэта дзяржаўны ўнівэрсытэт польскі, усе прадметы выкладаліся толькі папольску. Меў унівэрсытэт сем факультэтаў — гуманістыкі, мастацтва, тэалёгіі, права, мэдыцыны, прырода-матэматычны, аграноміі.

Пастyпаць на ўнівэрсытэт магла цяпер аднак моладзь ня з усіх беларускіх земляў, як было ў часе дзейнасьці ўнівэрсытэту гадоў 1579-1832, але толькі тых, што пры падзеле Рыскім трактатам 1921 году тэрыторыі Беларусі знайшліся ў межах польскае дзяржавы. Усходнія землі Беларусі ад Вільні былі аддзеленыя гэрматычнаю польска-савецкаю мяжою. Там у Менску, які стаўся сталіцаю Беларускае ССР, быў заснаваны Беларускі Дзяржаўны Ўнівэрсытэт.

Доступ на Віленскі ўнівэрсытэт для беларускай моладзі дзеля розных прычынаў быў вельмі цяжкі. Найперш, дзеля хранічна цяжкога эканамічнага стану беларускіх земляў пад Польшчаю, і асабліва сялянства. Толькі невялікаму ліку беларускае моладзі была магчымасьць здабыць тады сабе й сярэднюю асьвету, канечную перадумову для паступленьня на ўнівэрсытэт.

Апрача гэтага, польскія ўлады пастараліся закрыць у Заходняй Беларусі ўсе беларускія пачатковыя й сярэднія школы. Перад пачаткам вайны ў 1939 годзе засталася ў Польшчы адна-адзіная сярэдняя беларуская школа — беларуская філія пры аднэй зь віленскіх польскіх гімназіяў. Дык даплыў на ўнівэрсытэт моладзі зь беларускіх сярэдніх школаў практычна быў спынены. У выніку, на ўнівэрсытэце, які сваёй дзейнасьцяй ахопліваў беларускія землі польскае дзяржавы, мог вучыцца параўнальна толькі вельмі малы лік студэнтаў Беларусаў.

Дзеля вялікіх цяжкасьцяў з паступленьнем на Віленскі ўнівэрсытэт першыя гады пасьля Першае сусьветнае вайны моладзь зь беларускіх земляў Польшчы стала выяжджаць на навуку на ўнівэрсытэты замежныя. Экзыльны ўрад Беларускае Народнае Рэспублікі ў 1921 годзе выстараўся ад ураду Чэхаславаччыны стыпэндыі для беларускіх студэнтаў, і туды ехала на навуку шмат беларускае моладзі з Польшчы. Былі гады, калі ў Празе ды вышэйшых школах іншых местаў Чэхаславаччыны, студыявала больш беларускіх студэнтаў зь беларускіх земляў Польшчы, як на ўнівэрсытэце віленскім. Паколькі дастаць дазвол на выезд на навуку за межы ад польскіх уладаў беларускім студэнтам было немагчыма, выяжджалі яны туды нелегальна.

Пра нацыянальны склад студэнтаў Віленскага ўнівэрсытэту міжваеннае пары, унівэрсытэту, што меў заданьне прыймаць на навуку моладзь найперш зь беларускіх земляў Польшчы, могуць даць уяву статыстычныя лікі апошняга 1938/-39 акадэмічнага году. Унівэрсытэт меў тады 3110 студэнтаў, з чаго 2241 (70.2%) Палякаў, 417 (13.4%) Жыдоў, 212 (6.8%) Расейцаў, 94 (3.0%) Беларусаў, 85 (2.7%) Лятувісаў, 28 (0.9%) Украінцаў і 13 (0.4%) Немцаў. За ўсе міжваенныя гады на ўнівэрсытэце было іматрыкулявана 14,033 студэнтаў. Пры прыблізна 3% сярод іх студэнтаў беларускае нацыянальнасьці, у гэтым ліку магло быць каля 400 Беларусаў, лік на каля 3 міліёнаў беларускага жыхарства ў 1938 годзе ў межах Польшчы нязвычайна малы. Як вышэй прыведзеныя лікі паказваюць, Віленскі ўнівэрсытэт для беларускіх земляў тагачаснае Польшчы рыхтаваў кадры польскае, а ня беларускае інтэлігенцыі.

У праграме навучаньня ўнівэрсытэту беларусаведныя навукі татальна ігнараваліся. Ня было катэдраў ні беларускае мовы, ні літаратуры, ні гісторыі. Ня школіў унівэрсытэт і не ўзгадаваў ніводнага навукоўца спэцыялістага ў беларусаведных галінах. Толькі ў 30-ых гадох быў заснаваны лектарат беларускае мовы, для якога былі прызначаныя дзьве гадзіны ў тыдзень.

За ўвесь час свайго існаваньня Віленскі ўнівэрсытэт не надрукаваў ніводнае паважнейшае працы з галіны беларускае мовы ці іншых беларусаведных галінаў. Выняткава на беларускія тэмы былі некаторыя дысэртацыі, як прыкладам, напісаная пры катэдры паляністыкі дактарская дысэртацыя Ст. Станкевіча пра беларускія элемэнты ў польскай паэзіі пары рамантызму. Зь гісторыі віленскіх друкарняў была магістэрская дысэртацыя Хв. Ільляшэвіча пра друкарню Дому Мамонічаў. Рэдка ды толькі пабочна беларускіх тэмаў краналіся некаторыя дысэртацыі зь гісторыі Вялікага Княства Літоўскага ды некаторую ўвагу на беларускія этнаграфічныя зьявы зьвярталі працы катэдры этнаграфіі.

Беларускія студэнты ўнівэрсытэту міжваенных гадоў гуртаваліся ў сваёй арганізацыі Беларускі Студэнцкі Саюз. Саюз выдаваў свой часапіс „Студэнцкая Думка". Захадамі беларускіх студэнтаў на ўнівэрсытэце было заснаванае й Таварыства Прыяцеляў Беларусаведы. У 1930-ых гадох існавала нейкі час на ўнівэрсытэце й беларуская студэнцкая карпарацыя „Скарынія".

. . . . . . . . . . . . . . . .

Пасьля апошняе вайны Вільня ў межах СССР. Яна цяпер сталіцаю Лятувіскае ССР. Сучасны Віленскі ўнівэрсытэт і сваёй структураю, і праграмаю навучаньня, тыпова савецкі, ды ў істоце расейскі ўнівэрсытэт. Беларускіх студэнтаў на ім мала. Рэдка ды толькі выпадкова зьяўляюцца працы ўнівэрсытэту на беларусаведныя тэмы. Найважнейшая бадай зь іх — гэта надрукаваная сьціплаю тэхнікаю ротапрынту, але вельмі важная ў сваёй галіне праца А. К. Антановіча пра беларускія тэксты пісаныя арабскім пісьмом. Праца выдадзеная пры катэдры расейскае мовы.

***

Падсумоўваючы, можна сказаць, што калі Віленскі ўнівэрсытэт лепш ці горш у розныя поры свайго існаваньня, але спаўняў некаторую агульнаасьветную ролю на землях у вабсягу ягонае дзейнасьці, земляў у вялікай меры беларускіх, дык з гледзішча культурна-духовых патрэбаў беларускага народу гістарычная роля ўнівэрсытэту была бясспрэчна нэгатыўная. Значаньне Віленскага ўнівэрсытэту ў дэнацыяналізацыі й палянізацыі вышэйшых сацыяльна слаёў беларускага народу ў XVI-XIX стг. была аграмадная.

Хоць сваёй дзейнасьцяй Віленскі ўнівэрсытэт ахопліваў беларускія землі, ды беларускім Віленскі ўнівэрсытэт ніколі ня быў. Ягонаю мэтаю ніколі ня было ўзгадоўваньне навукоўцаў беларусаведных галінаў навукі ані кадраў беларускае інтэлігенцыі. Ня меў ніколі заданьня дбаць пра навучаньне, разьвіцьцё ды захаваньне нацыянальна-духовых вартасьцяў беларускага народу, ягонае мовы, пісьменнасьці, культурных традыцыяў. Яны на ўнівэрсытэце ня вывучаліся, але, як правіла, ігнараваліся.

Некаторым вынятакам у гэтым быў толькі час Віленскага Імпэратарскага Ўнівэрсытэту 1803-1832 гадоў — адзіная пара, калі паасобныя прафэсары ўнівэрсытэту, часта беларускага паходжаньня, самі ў сваёй навуковай і навучальнай дзейнасьці зьвярталі ўвагу на беларускі народ, ягоную гісторыю, мову, фальклёр.

Ня шмат зь гісторыі Віленскага ўнівэрсытэту ў ягоныя 400-ыя ўгодкі можна ўпісаць як сьветлыя балонкі ў гісторыі беларускага народу, хоць заданьнем унівэрсытэту й старога езуіцкага ,і новага міжваенных гадоў, было ахапіць сваёй дзейнасьцяй землі якраз беларускія.

**(Канец)**

## ПАМІНКІ Ў ТАРОНЬЦЕ

У нядзелю 28 кастрычніка сёлета ў царкве Сьв. Кірылы Тураўскага Яго Высокапраасьвяшчэнства Архіяпіскап Мікалай адслужыў Паніхіду па сьв. пам. Міколу Стальмашку, што памёр год таму назад. У царкве было поўна вернікаў, што прыйшлі памаліцца за душу калішняга царкоўнага старшыні, выдатнага й ахвярнага праваслаўнага хрысьціяніна, які шмат зрабіў для мясцовае Парахвіі.

Падчас бяседы ў царкоўнай залі пасьля Паніхіды згадвалі й гаварылі пра Нябожчыка сп. сп. М. Ганько, Ул. Целеш і К. Акула.

**К.**

---

*УСІМ НАШЫМ СУПРАЦОЎНІКАМ, ДАБРАДЗЕЯМ, ЧЫТАЧОМ І ПРЫХІЛЬНІКАМ, А ТАКСАМА ЎСЯМУ БЕЛАРУСКАМУ ГРАМАДЗТВУ*

*ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ*

**І ШЧАСЬЛІВАГА**

**НОВАГА 1980 ГОДУ**

*АД ШЧЫРАГА СЭРЦА ЖАДАЕ*

*Рэдакцыйная Калегія „БЕЛАРУСА"*

---

**ГАЛОЎНАЯ ЎПРАЗА**

**БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАГА ЗАДЗІНОЧАНЬНЯ**

вітае сваіх сяброў і ўсё беларускае грамадзтва з

**КАЛЯДНІМІ СЬВЯТАМІ**

**Й**

**НОВЫМ 1980 ГОДАМ!**

---

**СЭКТАР РАДЫ БНР Ў НЬЮ ДЖЭРЗІ**

**вітае з КАЛЯДАМІ ўсіх сваіх Сяброў, Прыхільнікаў і ўсіх Працаўнікоў на беларускай ніве**

**ды жадае ім**

**ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА ГОДУ!**

---

**ЗАДЗІНОЧАНЬНЕ БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКІХ ВЭТЭРАНАЎ**

**У АМЭРЫЦЫ**

жадае сваім сябром і прыхільнікам

**ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ**

**І**

**ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА 1980 ГОДУ!**

---

**УПРАВА АДДЗЕЛУ БАЗА Ў НЬЮ ДЖЭРЗІ**

**жадае сваім Сябром і Прыхільнікам**

**ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ**

**І**

**ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА ГОДУ!**

---

**Рэдакцыя часапісу „БЕЛАРУСКАЯ МОЛАДЗЬ"**

атрымала новы нумар Паштовае Скрынкі:

**297,**

на які просіць пісаць і прысылаць грошы для часапісу.

---

**ЧАКАЕМ І АД ВАС АХВЯРЫ НА ВЫДАНЬНЕ ЮБІЛЕЙНАЙ КНІГІ НА СТАГОДЗЬДЗЕ ЯНКІ КУПАЛЫ!**

---

# ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ

**ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА 1980 ГОДУ**

**СВАЯКОМ, ПРЫЯЦЕЛЯМ, ЗНАЁМЫМ**

**І ЎСІМ СУРОДЗІЧАМ АД ШЧЫРАГА СЭРЦА ЖАДАЮЦЬ**

*АЗАРКА МАРЫЯ й ЯНКА, ЮРКА й ІРЭНА*
*АКУЛА КАСТУСЬ зь СЯМ'ЁЙ*
*АРСЕНЬНЕВА НАТАЛЬЛЯ*
*БАЛКОЎСКІ ЗОФІЯ, АЛЯКСЕЙ і ЯНКА*
*БАКУНОВІЧ МІРАСЛАВА й МІТРАФАН і ДЗЕЦІ ЖОРЖ, ПЁТРА й ЛАРЫСА*
*БАРТУЛЬ ВЕРА, ФРАНЬЦІШ і АНТОН*
*БЕЛАРУСКІ ВЫДАВЕЦКА-МАСТАЦКІ КЛЮБ „ПАГОНЯ"*
*БЕЛЕНІС ЛЮДВІКА й АНТОН*
*ВОЙТАНКА МАТУШКА МАРЫЯ*
*ВОЙТАНКА АННА, МІКАЛАЙ і ЛЕАНІД*
*Д-р ГРАБІНСКІ БАЛЕСЛАЎ*
*ГРЫЦАЙ ЛІЗА й ЯКАЎ і ДЗЕЦІ*
*ГРЭБЕНЬ МІКОЛА зь СЯМ'ЁЙ*
*ГУТЫРЧЫК ЛІТВІНА, СЯРГЕЙ і РАГНЕДА*
*ДАНІЛОВІЧ АЛЯКСАНДРА, БРАНІСЛАЎ і ЭДЗІК*
*ДУБЯГА ЗОФІЯ, ЖЭНЯ, АЛЕГ, ЮЛЬЯН і ТАМАШ*
*ЖЫЗЬНЕЎСКІ АННА й НІКОДЭМ зь СЯМ'ЁЙ*
*ЗАМОРСКІ ВЕРА, МІКАЛАЙ, ТАНЯ й НІНА*
*Д-р ЗАПРУДНІК ВОЛЬГА, ЯНКА, НІНА й ВЕРА*
*КАЖАН ЛЮБА, ВІТАЛЬ, АЎГЕН, МАРГАРЫТА й ЮЛЬЯ*
*КАЖУРА МАРЫЯ, ПЁТРА й АЛЬГЕРД*
*Інж. КАЛОША КАСТАНЦІН*
*КАНАРЧУК ВОЛЬГА й ЯНКА*
*КАРАНЕЎСКАЯ АЎГЕНЯ, СЬВЯТАСЛАЎ і МАРЫЛЬКА*
*КАРАНЕЎСКІ СТЭФА, ФЛЯРЫЯН, ГЭЛЯ, МІХАСЬ, ВАНДА, ЯДЗЯ, КАРАЛІНА, ДАНУСЯ й МІХАСЬ малодшы*
*КАХАНОЎСКАЯ ЯНІНА*
*Д-р КІПЕЛЬ ЗОРА, ВІТАЎТ і ДЗЕЦІ*
*КЛЯЙНБАХ ЛЁЛЯ, КІТ і ЭМІЛЯ-АННА*
*КУНЦЭВІЧ МІКОЛА*
*МАРКЕВІЧ МАРЫЯ, АНТОН і ДЗЕЦІ*
*НАЙДЗЮК ЮЗЯ, ЧАСЛАЎ, ЯДЗЯ, КАРНЭЛЯ й ВІКТАР*
*НАРУШЭВІЧ ВОЛЬГА, СТАНІСЛАЎ і СЫН ЮРКА*
*НІКАН МІКОЛА зь СЯМ'ЁЙ*
*НОРЫК ЭЛЕАНОРА, ЛЕАНІД зь СЯМ'ЁЙ*
*Д-р РАМУК, ВЕРА, ВІТАЎТ і ДЗЕЦІ*
*СІЛЬВАНОВІЧ ВОЛЬГА, МІХАСЬ, НІНА, АЛЯКСАНДАР, АНТОН, ЛЕНА, ІРЭНА й АНДРЭЙ*
*СКАБЕЙ МІКАЛАЙ*
*СОКАЛ ЭЛЬЗА й ЯНКА*
*СТАГАНОВІЧ МАРЫЯ, АЛЯКСАНДАР і ЛЕЎ*
*СТАГАНОВІЧ КРЫСТЫНА й ЮРКА*
*Д-р СТАНКЕВІЧ ЗІНАІДА, СТАНІСЛАЎ і РАІСА*
*Інж. СТАНКЕВІЧ ЮРКА й СЯМ'Я*
*СТОМА НІНА й ВАСІЛЬ*
*СТРЭЧАНЬ АНДРЭЙ зь СЯМ'ЁЙ*
*СУБОТА КАЦЯРЫНА й АДОЛЬ*
*СЬЛІЎКА ЎЛАДЗІМЕР (ВАЛОДЗЯ)*
*ТУЛЕЙКА ВОЛЬГА й МІХАСЬ*
*ШУКЕЛОЙЦЬ АНТОН*
*ЧАРНЭЦКІ АЛЯКСАНДРА й ЯНКА*
*ХАНЯЎКА МАРЫЯ, ЧАСЛАЎ і СЯМ'Я*
*Айцец ЯНОЎСКІ АЛЯКСАНДАР*

*Мастацкае афармленьне Ірэны Рагалевіч*

# ШТО ЧУВАЦЬ?

**Пра нашага таленавітага артыстага Данчыка Андрусышына** маладая беларуская вучоная ў галіне музыкі Сьвятлана Берасьцень у сваім прафэсыйным артыкуле пра кампазытара Ігара Лучанка, зьмешчаным у кастрычніцкім № часапісу „Полымя", піша наступнае: „Малады Амэрыканец Богдан Данчык сьпявае беларускія песьні. Мяккія пераборы гітарных струн, сьвежы юначы голас, даволі чыстае беларускае вымаўленьне. Тут і народнае („Зорка Вэнэра", „Купалінка"), і аўтарскае („Спадчына", „Каханьне")".

**Сёлетні Беларускі Фэстываль быў адзначаны як удача беларускае грамады** ў лісьце ад сп. Фрэдэрыка Вэка, адміністратара Культурнага Фонду, які йснуе пры Цэнтры Мастацтваў штату Нью Джэрзі, да старшыні фэстывальнага камітэту др. Вітаўта Кіпеля. Ліст, датаваны 14 верасьня 1979 г., напісаны з нагоды заканчэньня сёлетняга сэзону. Між іншага, сёлета не адбыліся тры заплянаваныя фэстывалі іншых нацыянальных групаў з прычыны розных цяжкасьцяў, зь якімі сустрэліся іхныя арганізатары. Гэта ў пэўным сэньсе таксама сьветчаньне, хоць і адмоўнага парадку, аб вялізарным, і ўдалым, высілку беларускае групы.

У лісьце сп. Вэка кажацца, што грашовы прыбытак, які меў ад Беларускага Фэстывалю Культурны Фонд ньюджэрзійскага Цэнтру Мастацтваў, пойдзе на дапамогу старэйшым грамадзянам штату, школьнікам, калекам і сьляпым. У лісьце выказваецца спадзяваньне на ўдалае правядзеньне наступнага Беларускага Фэстывалю.

**Ілюстраваная манаграфія пра Францішка Скарыну пафранцуску** (пераклад зь беларускае) выйшла сёлета ў Парыжы ў выдавецтве ЮНЭСКА ў сэрыі „Выдатныя дзеячы славянскае культуры". Аўтары кніжкі, што мае 78 бачынак, В. Чамярыцкі, Г. Галенчанка й В. Шматаў (памылкова напісаны „Гматаў"). Рэцэнзія на яе будзе зьмешчаная ў наступным нумары нашае газэты.

**Бібліяграфія выданьняў Ф. Скарыны й працаў пра яго,** укладзеная А. Л. Няміроўскім, выйшла ў 1978 г. у Маскве ў выдавецтве Дзяржаўнае Бібліятэкі СССР імя Леніна. Загаловак кнігі: „Начало книгопечатания в Белоруссии и Литве. Жизнь и деятельность Франциска Скорины. Описание изданий и указатель о литературе. 1517-1977" (160 бб.).

Гэта — другая ўжо бібліяграфія скарыніяны. Першая выйшла ў 1970 годзе ў выданьні ньюёркаўскага Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў вапрацаваньні др. Вітаўта Тумаша.

У бібліяграфіі Няміроўскага названа 1429 пазыцыяў. У картатэцы-ж скарыніяны ў БІНМім цяпер налічваецца больш за тры тысячы пазыцыяў. У бібліяграфіі Няміроўскага сьведама выпушчаныя скарынаведныя публікацыі беларускіх дасьледнікаў замежных і заходнябеларускіх, а таксама некаторых савецкіх з 1920-х гадоў (прыкладам, В. Ластоўскага, У. Ігнатоўскага ды інш.).

**Працы ведамага беларускага фатографа з Заходняе Беларусі Яна Булгака** былі часткаю польскае выстаўкі (з Варшавы) „Польская Фатаграфія, 1839-1979", што была адчыненая сёлета ў Нью Ёрку з канца ліпеня па 15 верасьня ў Міжнародным Цэнтры Фатаграфіі на Пятай Авэню й 94-й вуліцы. Газэта „Нью Ёрк Таймс" у нумары за 27 ліпеня, рэцэнзуючы выстаўку, пісала: „І яшчэ аднаго мастака можна адкрыць тут — Яна Булгака, здымкі якога архітэктурных дэталяў (з пэрыяду 1900-1920 гг.) дасканальныя, як якія-хаця ў гэтай катэгорыі, зробленыя ў тым-жа часе ў Заходняй Эўропе або Задзіночаных Штатах. Булгак бяссумлеўна — адзін з фатографаў на выстаўцы, якога-б мы хацелі бачыць больш, і сп. Вільям Эўінг абяцае наладзіць у недалёкай будучыні выстаўку-солё Булгаковых працаў".

**У сэрыі „Беларускі Царкоўны Сьпеўнік", выдаванай пад рэдакцыяй сп. Г. Пікарды у Лёндане** ў выдавецтве Беларускае Бібліятэкі імя Ф. Скарыны ў Лёндане, выйшлі далейшыя літургічныя песьні: „Милость мира" (падляская мэлёдыя, апрац. Г. П.), „Экценія" (вялікая, муз. М. Равенскага; малая — супрасьльскі расьпеў, апрац. Г. П.), „Буди имя Господне" (палескі напеў), „Антыфона" („Благослови душе моя Господа", музыка М. Равенскага), „Да исполнятся" (муз. М. Равенскага), „Святый Боже" (палескі напеў), „Херувік" (муз. М. Равенскага).

**На зьезьдзе прадстаўнікоў цэркваў пяцьдзесятнікаў,** што адбыўся патаёмна ў жнівені сёлета ў лесе пад Масквой, сярод 20-х дэлегатаў былі й прадстаўнікі зь Беларусі. На зьезьдзе створаная Рада Пяцьдзесятніцкіх Цэркваў, што будзе займацца каардынацыяй дзейнасьці й рэлігійнага жыцьця пяцьдзесятнікаў СССР. У Савецкім Саюзе цяпер налічваецца 500 тысячаў пяцьдзесятнікаў, зь якіх 30 тысячаў заявілі пра сваё жаданьне выэміграваць. На зьезьдзе была прынятая адозва да Папы Яна Паўла II з просьбай, каб ён дапамог выехаць „зь бязбожнае краіны". Вестку пра зьезд пяцьдзесятнікаў падала газэта „Нью Ёрк Таймс" за 5 верасьня сёлета, а таксама выдаваны ў Бруксэлі пад рэдакцыяй Краніда Любарскага расейскі „Інфармацыйны Бюлетэнь" (№ 17, 15. IX. 79).

## БЕЛАРУСКІ ТАНЦАВАЛЬНЫ АНСАМБЛЬ "КРЫЖАЧОК" У МЭЛЬБУРНЕ

9-га кастрычніка сёлета ў вялікай залі Дальляс Брукс у Мэльбурне (Аўстралія) адбыўся адзіны выступ Танцавальнага Ансамблю „Крыжачок".

Згодна з распаўсюджванымі перад і падчас выступу лістоўкамі-праграмамі, Танцавальны Ансамбль Беларускага Дзяржаўнага Ўнівэрсытэту ў Менску „Крыжачок" існуе ўжо больш 30-ці год. У Ансамбль уваходзіць каля 60 асобаў (у Мэльбурне было іх значна менш) — студэнтаў і студэнтак Беларускага Дзяржаўнага Ўнівэрсытэту. Ансамбль меў шматлікія турнэ ў Савецкім Саюзе, Усходняй Эўропе й Афрыцы. Артыстычным дырэктарам яго Мікола Лапша, салістымі Аркадзь Саўчанка (лірычны барытон), Людміла Малышава (піяністка) й Аўген Гладкоў (ігра на цымбалах).

Беларусы Мэльбурну даведаліся пра выступленьне якіх два тыдні наперад. Былі спробы наладжаньня спатканьня з тутэйшым беларускім грамадзтвам прынамся часткі сяброў Ансамблю або ў Беларускім Доме або прыватна. Нажаль, гэта не ўдалося. Артыстыя ня мелі часу, бо затрымаліся ў Мэльбурне вельмі коратка. Толькі пасьля канцэрту нашыя мэльбурнскія жанчыны ўручылі артыстым прыгожы букет кветак.

На вечары былі пераважна эмігранты, сярод якіх шмат Беларусаў. Піяністка Л. Малышава паінфармавала прысутных (у ангельскай мове) аб Беларусі, ейным насельніцтве, культурных і эканамічных дасягненьнях. Прысутным на залі Беларусам усё гэта было ўжо ведама з розных брашураў у беларускай і ангельскай мовах, якія можна ў цэнтры гораду лёгка дастаць і якія заўсёды ня згодныя з праўдай.

Урэшце пачаўся канцэрт. Танец „Крыжачок" быў выкананы вельмі добра, але ён зусім не прыпамінаў „Крыжачка", якога мы бачылі на Бацькаўшчыне й на эміграцыі. Вопратка была вельмі прыгожая, але ня беларуская. Зь іншых беларускіх нумароў быў вельмі добра выкананы А. Саўчанкам „Нёман". Далей танцоры выканалі беларускі камічны танец „Каля студні" й харэаграфічны скэч асnoваны на „Паўлінцы" Янкі Купалы. Выкананьне было добрае, хоць ізноў вопратка ня мела беларускага выгляду.

На асаблівую ўвагу заслугоўвала выкананьне на цымбалах Вугорскае Рапсоды Франца Лішта (А. Гладкоў, пры акампаньяманьце піяністкі Л. Малышовай).

Із 17-ёх нумароў праграмы было толькі 5 беларускіх, рэшта чужыя (адзін украінскі, адзін латыскі, два малдаўскія, усе іншыя расейскія).

Вечар закончыўся расейскім танцам „Барыня", што ўва ўсіх прысутных на канцэрце Беларусаў выклікала вялікі нясмак. Танцавальны Ансамбль „Крыжачок" больш стараўся прыслужыцца да папулярызацыі Расеі, чымся Беларусі. Можа гэта й ня віна Ансамблю, мо гэта толькі высокая цана, якую трэба было заплаціць, каб паказаць на замежных сцэнах некалькі беларускіх нумароў. Ансамбль дасьць некалькі выступленьняў у Сыднэі. Цікава, якое зробіць уражаньне на беларускіх глядачоў там?

**А. К-а**

## ТАНЦАВАЛЬНЫ АНСАМБЛЬ „КРЫЖАЧОК" У СЫДНЭІ

Аўстралійска-Савецкае Таварыства Прыязьні наладзіла ў Сыднэі ад 8 да 20 кастрычніка сёлета „Культурны Фэстываль" СССР, у якім прыняў удзел Беларускі Танцавальны Ансамбль „Крыжачок". Разам з гэтым таксама была наладжаная выстаўка беларускага народнага мастацтва. Фэстываль гэты быў наладжаны перадусім для папулярызацыі маскоўскіх алімпійскіх ігрышчаў. Чаму якраз была выбраная дзеля гэтае мэты беларуская група? Магчыма толькі дзеля нашага нацыянальнага назову, які чужаземцы часта блытаюць. У гэтым выпадку вельмі значна памаглі ім, хіба сьвядома ,арганізатары фэстывалю.

У праграмках канцэрту, якія раздаваліся спадцішка (іншае рэклямы амаль ня было) паясьнялася, што "Kryzhachok" — the most popular and widely known Byelorussian dance. The name "Kryzhachok" is derived from the Russian word "kryzh" meaning "cross". Дык, як відаць, савецкая русыфікатарская палітыка праводзіцца й паза межамі СССР!

Канцэртаў адбылося два з тэй самай праграмай. Было ўступнае слова пра Беларусь зь ейнымі абскубанымі межамі й дзесяцімілённым жыхарствам. Першы нумар праграмы танец „Крыжачок" быў выкананы беззаганна, але танцоры былі ня ў беларускіх народных вопратках. Наступна народны артысты БССР Аркадзь Саўчанка прапяяў песьню „Нёман". Мілагучная мэлёдыя й лірычны барытон сьпявака з прыемнасьцяй успрыймаліся слухачамі. Больш танцаў: украінскі „Гапак", латыская „Полька", малдаўскі народны танец і тады — рэдкая нагода пачуць старынныя цымбалы. Салісты Аўген Гладкоў зачараваў прысутных так клясычнай, як і народнай музыкай, а нашая „Лявоніха", якою музыка закончыла сваё выступленьне, выклікала буру бязупынных воплескаў. Тады ўзноў танцы: расейскі камічны танец і расейскі народны танец, перапляцаныя песьнямі таксама пераважна расейскімі, бо на 8 песьняў — аж 5 расейскіх, а толькі 3 беларускія!?

На пытаньне, чаму гэтак мала ў праграме беларускага элемэнту, кіраўнік групы Мікола Лапша адказаў, што яны рэпрэзэнтуюць увесь Савецкі Саюз. Ці гэты адказ паясьняе, чаму была гэткая вялікая ўдзельная вага расейскіх песьняў? Паводля брашуркі фэстывалю, у СССР налічваецца 121 нацыянальнасьць. Аднак яны ня мелі ніякіх шансаў на фэстывалі, калі беларускія артыстыя атрымалі на сваёй роднай мове толькі тры на восем нумароў.

У Культурны Фэстываль СССР уваходзіла таксама й выстаўка беларускага народнага мастацтва. Была яна зладжаная ў спалучэньні з выстаўкай, якая прапагавала маскоўскія алімпійскія ігрышчы. Ізноў рэклямы амаль ня было. У брашурцы фэстывалю быў паданы няправільны адрыс. Дык калі хто ў канцы знайшоў, дзе яна адбываецца, дык уваходзіў у вялікую залю, дзе на першым пляне былі разьмешчаныя здымкі спартовых уладжаньняў у Маскве, разьлічаныя на заахвочаньне турыстых. Выстаўка беларускага народнага мастацтва была збоку, экспанаты знаходзіліся амаль адзін на адным і ўсё зьлівалася разам, не даючы магчымасьці ацаніць і палюбавацца паасобнымі прыгожымі тканінамі, памастацку выкананымі рэчамі з саломкі й лёну. Аўстралійцы, што даглядалі выстаўку, ня ведалі, ці рэч тканая, ці вышываная, а што й казаць пра арыгінальныя экспанаты із саломкі?

На выстаўцы ня было ніводнага прадстаўніка з БССР. Чаму? Праўда, пры рэчах былі ў расейскай мове паясьненьні, якія паказвалі разьмер і цану. Але нашто цана, калі яны ня былі на продаж? Хіба арганізатары хацелі паказаць, якія танныя рэчы ў Саветах, думаючы, што людзі тут ня ведаюць, што работнік тут за тыдзень зарабляе амаль падвойна, што савецкі работнік за цэлы месяц.

Выстаўка й канцэрт прайшлі неяк неўзаметку, амаль бяз рэклямы. Робіцца ўражаньне, што Таварыства Прыязьні не хацела розгаласу, хоць добра ведала, што ў Сыднэі ёсьць вялікая група Беларусаў.

Памылковыя інфармацыі, спадцішка раздаваныя праграмкі, няграматныя й спрэчныя, пакінулі нясмак і абурэньне з „культурнасьці" Савецкага Культурнага Фэстывалю.

**А. К-я**

## ДА ВЕДАМА ЧЫТАЧОЎ „БЕЛАРУСА"

**Усім тым, што да Новага 1980 Году не разьлічацца з Рэдакцыяй за газэту „Беларус" ды не аплацяць падпіскі за ўвесь 1980 год, ад наступнага ягонага нумару далейшая высылка газэты будзе спыненая без папярэдніх індывідуальных паведамленьняў. Гэткія-ж мерапрыёмствы просім правесьці й усім нашым Прадстаўніцтвам, паза Нью Ёркам, у ЗША і ўва ўсіх замежных краёх.**

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД "БЕЛАРУСА"

**За папярэдні пэрыяд (у кастрычніку 1979) паступілі ў касу нашае газэты падпіска й наступныя ахвяры на Выдавецкі Фонд „Беларуса":**

### I. ЗША:

**А. Прыслана беспасярэдня ў Рэдакцыю:**

| | |
|---|---|
| 1. Нью Джэрзі Гайвэй Аўторыты за клішы й абвесткі 3-га Беларускага Фэстывалю 19 травеня 1979 | $ 400.00 |
| 2. М. Заморскі | 75.00 |
| 3. Д-р Л. Трусэвіч | 50.00 |
| 4. В. і М. М. | 25.00 |
| 5. М. Белямук | 20.00 |
| 6. М. Чупрыкаў | 20.00 |
| 7. П. Нягода | 15.00 |
| 8. Т. Касьцёлак (за абвесткі) | 25.00 |
| 9. Я. Э. Мітрапаліт Андрэй | 10.00 |
| 10. М. Кучура | 10.00 |
| **Разам:** | **$ 625.00** |

**Б. Заплачана Беларусамі Кліўленду сп-ру Янку Лукашэвічу:**

| | |
|---|---|
| 1. К. Калоша | $ 60.00 |
| 2. А. Лук'янчык | 20.00 |
| 3. П. Б. | 20.00 |
| 4. Я. Лукашэвіч | 15.00 |
| 5. А. Яраховіч | 10.00 |
| 6. а. М. Страпко | 10.00 |
| 7. А. Стрэчань | 10.00 |
| 8. Я. Каваленка | 10.00 |
| 9. В. Валюкевіч | 10.00 |
| 10. К. Круглы | 10.00 |
| 11. В. Сьпічонак | 5.00 |
| 12. А. Семянчук | 5.00 |
| 13. К. Каляда | 5.00 |
| 14. І. Сьмірноў | 5.00 |
| 15. О. Стрэчань | 5.00 |
| **Разам:** | **$ 200.00** |

### II .АНГЕЛЬШЧЫНА:

| | |
|---|---|
| 1. Міхась Баяроўскі | **$ 33.30** |

### III. КАНАДА:

| | |
|---|---|
| 1. К. Акула | **$ 10.00** |

### IV. ШВАЙЦАРЫЯ:

| | |
|---|---|
| 1. Праф. І. Лёчэр | **$ 10.00** |

**Усяга разам у кастрычніку 1979: $ 878.30**

**Усім тым, што прыслалі грошы, Рэдакцыйная Калегія „Беларуса" выказвае шчырае беларускае дзякуй!**

## ТАНЦАВАЛЬНАЯ ГРУПА „ЛЯВОНІХА" НА АЎСТРАЛІЙСКІМ ТЭЛЕБАЧАНЬНІ

19 верасьня сёлета ў Адэляйдзе а 4-ай гадзіне папаўдні на 9-ым тэлевізыйным канале выступала беларуская дзіцячая танцавальная група „Лявоніха". Група гэтая была зарганізаваная ў 1978 годзе перад Трэйцяй Сустрэчай Беларусаў Аўстраліі, якая адбылася ў Адэляйдзе на праваслаўныя Каляды сёлета.

Ужо тады пасьля першага выступленьня на сцэне падчас вялікага канцэрту на згаданай Сустрэчы група „Лявоніха" расчуліла глядачоў аж да сьлёзаў і разам з гэтым выказала глыбокую любасьць да свайго роднага мастацтва.

Для тэлевізыйнага паказу былі назначаныя дзьве даты: 14 верасьня сёлета была сфільмаваная танцавальная група „Лявоніха" ў нашай прыцаркоўнай залі, а 19 верасьня — адбыўся жывы паказ у студыі. Для першага паказу бацькі дзяцей, пераважна маткі, разам зь іншымі актыўнымі Беларусамі ўдэкаравалі залю беларускімі ручнымі мастацкімі вырабамі. Усё гэта было густоўна разложана на сталох, а на галоўнай сьцяне красаваліся беларускі й аўстралійскі нацыянальныя сьцягі, а пасярэдзіне вісеў беларускі нацыянальны гэрб „Пагоня" з ангельскім подпісам пад ёй.

На экране глядачы ўбачылі стол, а за сталом у прыгожых беларускіх народных касьцюмах дзеці — Паўлік Калесьніковіч, Натальля Якша, Соня Якша й Тосік Яновіч. Перад імі міска з капустай, зь якой яны ядуць, пераглядаюцца й усьміхаюцца. Гутарка між імі пачынаецца двума кароценькімі жартамі пабеларуску, а ўнізе на экране — іхны ангельскі пераклад. На запытаньне: „Дзе знаходзіцца Беларусь?", на экране паказваецца карта Эўропы з граніцамі Беларусі, а пасьля на цэлым экране карта Беларусі.

Тэлевізыйная перадача 19 верасьня была гэткая: сядзіць на канапе ў народных беларускіх касьцюмах група нашых дзетак: Андрэй Бічанін, Ніна Якша, Анна Калесьніковіч, Пятро Бічанін і Кон Бічанін. Перад імі ў кошыку памаляваныя каляровым народным арнамантам вялікодныя яйкі. Адразу пасьля гэтага нашыя малыя „артыстыя" паказалі вялікоднае качаньне яек, гульню „ў біткі" й г. д.

За абедзьве тэлевізыйныя перадачы належыцца заслужанае прызнаньне й падзяка нашым дзеткам за вельмі добрае выкананьне праграмы. Падзяка належыцца й іхным бацьком, што належна падрыхтавалі сваіх дзяцей да выступленьняў. Абедзьве перадачы адыгралі важную ролю ў прапагаваньні беларускага імя сярод аўстралійскага грамадзтва.

**Міхась Б.**

## СУСТРЭЧА ЗЬ БІСКУПАМ У ЛЕ КРЭЗО

Біскуп Дыяцэзіі Отан Монсіньёр Ле Буржуа ўжо даўно выказваў жаданьне сустрэцца з эмігранцкімі групамі й арганізацыямі ў Ле Крэзо (Францыя). Першая гэткая сустрэча адбылася ў нядзелю 4 лістапада сёлета. Нараніцы а 10-ай гадзіне ў залі Гішпанскага Клюбу сабраліся дэлегацыі ад Гішпанцаў, Партугальцаў, Італьянцаў, Палякаў і Беларусаў. На працягу дзьвюх гадзінаў кажная з нацыянальнасьцяў выказвала Біскупу свае нацыянальныя праблемы, часамі навет скаргі. Забіраў слова й беларускі прадстаўнік, які коратка, але ясна прадставіў Біскупу нашыя нацыянальныя праблемы, падчыркнуўшы, што яны больш спэцыфічныя чымся іншых нацыянальнасьцяў хоць-бы ўжо з тае прычыны, што нашая група колькасна тут меншая ды геаграфічна-палітычнае палажэньне нашага краю зусім іншае.

Пасьля абеду ў мясцовай капліцы Божай Маці Працы Монсіньёр Ле Буржуа ў суслужэньні із шматлікімі эмігранцкімі й францускімі сьвятарамі адслужыў Сьв. Літургію на інтэнцыю эмігрантаў. У часе Літургіі прадстаўнік ад кажнай нацыянальнасьці прачытаў малітву ў сваёй роднай мове. Ад Беларусаў была прачытаная малітва наступнага зьместу: **„Яшчэ молімся за Бацькаўшчыну нашую Беларусь, за народ наш беларускі дома й на выгнаньні ды просім Усемагутнага, каб дазволіў нам вытрываць у веры бацькоў нашых".**

Пасьля Божае Службы быў скромны пачастунак у залі пад капліцаю, ладжаны партугальскаю групаю. Тут працягваліся далей гутаркі й узаемныя знаёмствы ды кажная нацыянальнасьць сьпявала свае народныя песьні, у чым і мы Беларусы ня былі апошнімі.

**Б. Н.**

## ПРОСІМ ЗДАБЫВАЦЬ НОВЫХ ПАДПІСЧЫКАЎ „БЕЛАРУСА" НА НАСТУПНЫ 1980 ГОД!

**НОВЫ АДРЫС ПРАДСТАЎНІЦТВА „БЕЛАРУСА" Ў СЫДНЭІ:**

Mrs. Eugene Karanieuski
15 Brigg Road
Epping, N.S.W. 2121
Australia

**куды й просім зьвяртацца ў справах нашае газэты.**